Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня. Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 9. Вільня, Нядзеля, 19-га кастрычніка 1924 г. Год I.

**СЯЛЯНЕ!** Памятайце, што „Сялянская Праўда“—гэта **вашая газэта**, дык вы самі павінны яе і ўтрымаць. Дзеля гэтага **акуратна шліце падпісныя грошы** і намаўляйце да гэтага другіх!

Хто ў цяжкую пару задоўжыўся, хай, сабраўшы з поля, **адашлець свой доўг!**

Падпішчыкам, якія **да 1 лістапада** заплоцяць зразу грошы да канца году, будзе **бясплатна** разасланы зборнік — вялікая кніжка ў 156 стр. —

## „Заходняя Беларусь“.

## Пляны рэакцыі.

Напярэдадні ўзнаўленьня працы Сойму ўсе партыі пачынаюць усё больш і больш выразна выяўляць свае пляны на бягучую сэсію. І трэба адзначыць, што пад той час як лідэры П. П. С. і „Вызваленьня“ езьдзілі па сталіцах Эўропы, „ратуючы“ рэпутацыю польскага „лібэралізму“ ў адносінах да „нацыянальных меншасьцяў“,—„правіца“ ня спала ў шапку і энэргічна працавала ў працягу ўсяго лета, каб так-званыя „языковыя законы“, якімі левыя комівояжэры польскае дзяржаўнасьці так пахваляліся перад дэмакратыяй Захаду, зьвясьці да нуля.

Прыведзены ў папярэднім нумары нашае газэты „віленскі маніфэст“ міністра асьветы п. Міклашэўскага паказаў, што польскі нацыяналізм і ў справе правядзеньня ў жыцьцё „языковых законаў“ для беларусаў і ўкраінцаў аканчальна перамог. Але тое, што гаварыў п. Міклашэўскі віленскім журналістам, зробіцца зусім зразумелым у сувязі з тымі плянамі польскага нацыяналізму і польскае рэакцыі, якія маюць быць зьдзейсьнены ў гэту сэсію Сойму. Бо-ж ня толькі над беларусамі і ўкраінцамі, але і над усей Польшчай зьбіраюцца чорныя хмары.

У польскай прэсе за апошнія дні даволі часта пападаліся болей або меней поўныя заметкі аб праектаванай рэканструкцыі польскага ўраду. Іншыя газэты гатовы былі бачыць на становішчы прэм'ера сучаснага ваеннага міністра ген. Сікорскага, які ў першую сваю бытнасьць прэм'ерам добра даўся ў знакі беларускаму народу. Аднак, згодна з атрыманымі намі весткамі з соймавых кругоў, і ген. Сікорскі—лішне „лібэральны“ для тэй новай большасьці, якая ўжо наладжываецца ў польскім Сойме.

Бо-ж ідзе гуртаваньне *права-нацыяналістычнае большасьці*, якая мае апірацца ня толькі на „сваіх“ польскіх галасох, але і на групе жыдоў-ортодоксаў, самай рэакцыйнай у жыдоўскім агульнанацыянальным соймавым клюбе, якая, як нам наказуюць з Варшавы, за некаторыя дробныя ўступкі з боку палякоў, быццам, ужо згаджаецца зламаць адзіны фронт „нацыянальных меншасьцяў“....

Паскольку гэткая камбінацыя зьдзейсьніцца і на чале ўраду стане пасол Гломбіньскі (—„bezczelny pysk“, паводле выражэньня дэпутата Воевудзкага!), паскольку праектаваны новы ўрад запраўды адступіцца ад чыста нацыяналістычнага прынцыпу „выключна польскае большасьці“, дык гэта будзе знак, што *польская рэакцыя перамагла нават свой нацыяналізм* дзеля тым вастрэйшай барацьбы з усімі праявамі поступу і імкненьня працоўных масаў Польшчы ўсіх нацыянальнасьцяў да *сацыяльнага* вызваленьня.

Гэта суліць завастрэньне сацыяльнае барацьбы ў Польшчы, якая можа заняць больш выдатнае месца ў жыцьці Польскага гаспадарства, чым сучасная нацыянальная барацьба. Крыху супакоіўшы заграніцу—пры помачы „лявіцы“—адносна да несьцярпімага палажэньня „нацыянальных меншасьцяў“, Польшча можа сабе пазволіць крыху „забыцца“ аб іх і *заняцца ўсё крапчэючым нездавольствам „сваіх“—чыста польскіх працоўных масаў*, якія паважна трывожаць сон „радзімага“ капіталу....

Не дарма-ж газэты наказуюць аб узнаўленьні працы мяшанае камісіі левых партыяў у Сойме: на іх будзе ляжаць вельмі цяжкая адказнасьць перад сваім працоўным народам, проці каторага праектуецца *наход аб'яднанае польскае рэакцыі.*

Трэба думаць, што ў працягу гэтае сэсіі і адбудзецца зьмена сучаснага пазапарляманцкага ўрада п. Грабскага на ўрад, зложаны з соймавых дэпутатаў з партыяў „польскае большасьці“. Як-жа аднясецца да гэтых плянаў рэакцыі наш пасольскі клюб?

Што датычыць ліквідацыі ўраду п. Грабскага, які адзначыўся тым, што *дакончыў ліквідаваньне беларускае народнае школы ў Заходняй Беларусі*, дык хіба-ж ня знойдзецца такога беларускага пасла, які-б падаў за захаваньне яго свой голас. Але і да габінэту п. Гломбіньскага ці яму падобнага таксама ня можна мець ніякага даверыя: і польскі нацыяналізм, і польская рэакцыя ў роўнай меры зьяўляюцца ворагамі беларусаў, у роўнай меры імкнуцца да поўнага вынішчэньня нашага народу—народу працоўнага, „мужыцкага“.

І дзеля гэтага Беларускі Пасольскі Клюб у часе барацьбы між польскімі партыямі за ўладу будзе мець зусім выразную дарогу: *бароцца* проці тых, хто пагражае яму і з *нацыянальнага* і з *сацыянальнага боку.*

## Кошт утрыманьня польскае дзяржавы на 1925 год.

Згодна з толькі што закончаным урадовым праектам дзяржаўнага бюджэту на 1925 год, у дзяржаўны скарб павінна паступіць з падаткаў і даходаў ад манаполіяў і дзяржаўных прадпрыемстваў вялізарная сума: 1.981.533.202 злотых (адзін мільярд дзевяцьсот восемдзесят адзін мільён пяцьсот трыццаць тры тысячы дзьвесьце два злоты).

Падзяліўшы гэтую суму на агульную лічбу жыхароў Польшчы (мужчын, жанок, старых і дзяцей), якая даходзе 28 мільёнаў, **выпадае на душу**, у круглых лічбах, **па 70 злотых!**

## „Тайна трагедыі жыцьця крэсавага грамадзяніна“.

„Robotnik“ зьмяшчае вельмі слушную і гарачую стацьцю аб тым, **„Jak się „uspokają“ „Kresy“** („як „супакоіваюць“ „Крэсы“).

Тое, аб чым мы ў Вільні, баючыся так „кахаючай“ нас рукі п. Вімбора, пісалі недагаварываючы, варшаўская газэта піша, бо мае і падставы і права пісаць,—як кажуць Французы, „усімі літарамі“, а нават яшчэ і „стаўляючы кропкі над і. Газэта сцьвярджае перадусім, што „паліцыя“ на „Крэсах“ выявіла ў-ва ўсей паўнаце няздарнасьць і **трусьлівасьць** („nieudalność i **tchórzostwo**“)...

Было-б запраўды цікава і навучальна, каб які-колечы вайсковы спэцыяліст паддаў фаховаму разгляду хаця-б увесь ход нападу на Стоўпцы і пагоні за бандытамі з боку паліцыі і войска... Бо нават неспэцыялістам кідалася ў вочы дзіўная „тактыка“ „кавалерыйскага рэйду“ п. п. уланаў, якія ніяк, ані праз мост, ані інакш не маглі дабрацца да месца гарачага „бою“ і наагул — ня страцілі ніводнага чалавека нават раненым у-ва ўсей апэрацыі,—як відаць з вельмі наіўна і прастадушна напісанай „рэляцыі“...

Мы ведаем п. п. вайсковых, якія чырванелі, чытаючы гэтую рэляцыю... І вось цяпер „Robotnik“ ставіць кропку над і, вымаўляючы адпаведнае слова, разьбіраючы тактыку п. п. паліцыянтаў пры нападзе на цягнік пад Лоўчай. „Не памаглі ані „sztaby operacyjne“, ані прысланыя з Варшавы „спэцыялісты“... „Сумная праўда—ў поўнай недалужнасьці паліцыі“... Пакуль п. п. камісары і падкамісары спрачаліся, каму **кіраваць** „бітвай“ (а каму—лезьці ў вагонь...), „бандыты, сьмяючыся з уладаў бясьпечнасьці, уцякалі ў Расею, робячы па дарозе новыя напады“...

Гэта—адно, што сцьвярджае газэта, падцьвярджаючы тую, „Праўду аб бандытызьме“, аб якой у нас пісалася—трохі „ў бавоўне“...

Паном паліцыянтам, наагул, лішне ўжо добра жывецца на „Крэсах“, каб яны хацелі так лёгка рызыкаваць жыцьцём...

Але-ж Варшава, якую кармілі сэнсацыямі, — піша далей газэта,—чакае рэзультатаў, трэба ёй (начальству!) даць рэзультаты „пагоні“—за ўсялякую цану!..

І вось тут газэта сцьвярджае нешта ў такой меры страшэннае, нялюдзкае, абураючае, што папросту жудасна паверыць... Але, пасьля вядомай заявы самага міністра ўнутр. спраў і пасьля таго, што піша цяпер польская газэта, да „недалужнасьці і трусьлівасьці“ паліцыі прыходзіцца дадаць яшчэ адну, ужо менш „людзкую“ рысу!

Вось, што піша „Robotnik“:

„Варшаве трэба даць рэзультаты“,—трэба канешне „знайсьці“ бандытаў—дык „ці-ж мала мужыкоў у павеце?! Бандыты былі ў лапцёх, — мужыкі—таксама ў лапцёх...—На што-ж лішне клапаціцца (наражаючы йшчэ дарагое жыцьцё!),—на што пілнаваць балоцістую граніцу!—Есьць вёскі і мястэчкі,—дык яны і дадуць патрэбных „бандытаў“!.. А пасьля—трэба толькі, як найхутчэй, канцы ў ваду... Дык вось насустрэчу йдзе ўсё: **„кароткае сьледзтва, даразны суд і—канец“**...

Але жуда бярэ, чытаючы пра гэтую „тайну трагедыі жыцьця крэсавага грамадзяніна, якой трэба зрабіць канец“...

Але—хто-ж зробіць канец, калі якраз завялі яе ўсемагутныя „крэсавікі“ дый разводзяць усё шырэй і глыбей?!. Проста кажучы — паліцыянты бяруць першую папаўшуюся „дабычу“ ці ахвяру,—робяць з яе „бандыта“, дабываюць пэўнымі спосабамі, услаўіўшымі ўжо на ўвесь сьвет **новае** польскае імя, „паказаньні“ і „прызнаньні“ абвінавачанага, а польскай Тэмідзе (багіні справядлівасьці) за завязанымі на ўсё гэта вачыма астаецца толькі, як найхутчэй, спусьціць усе гэтыя ахвяры ў „магілу забыцьця“... „Справядлівасьць“ мусіць мець „здавальненьне“,—а беларускія сяляне ўсе так падобны адзін да аднаго, бо ўсе—„бандыты“, з пункту гледжаньня польскай дзяржаўнасьці на „Крэсах“...

Падумайце толькі,—якая прастата „працы“ паліцыі—адміністрацыі—суда на „Крэсах“, з аднаго боку, і якая запраўдная „тайна трагедыі жыцьця грамадзяніна“—беларуса, з другога боку!..

процi ўраду. Правiцовая прэса вiнавацiць у спадку левы ўрад, а левыя газэты даводзяць, што гэты спадак — рэзультаты тэй спадчыны, якую атрымаў пасьля п. Пуанкарэ ўрад Эрыо i якую гэтак старанна i лоўка ўмеў скрываць ад народа спрытны п. Пуанкарэ... Чаму толькi лявiца маўчала амаль не паўгода. аб гэтай „спадчыне“, а загаварыла толькi цяпер, калi франк пачаў спадаць iзноў.

Не дарма-ж п. Эрыо вядзе тую-ж iмпэрыялiстычную палiтыку, што вёў i п. Пуанкарэ. — Спадчына — тут, спадчына i там!.. Няма чаго дзiвiцца.

### „Кiрыл Першы“.

Абвесьцiўшы сам сябе „ўсерасейскiм царом“, былы вялiкi князь Кiрыла Уладзiмеравiч пачаў цяпер назначаць сваiх „паслоў“ i „прадстаўнiкоў“ на тыя цi iншыя раёны i краi. „Прыказы“ аб гэтым публiкуюцца ў маленькай газэтцы „Вѣра i вѣрность“ (якой нiхто ня чытае, апрача хiба дзеля сьмеху!).

Апошнi „прыказ“ „цара“ забараняе ўсякую крытыку цi лаянку на „асобы царскага дому Раманавых“.

Газэта „Дни“ пiша, што гэты „прыказ“ — вельмi на часе, бо як раз у апошнiя днi цэлы рад „асоб“ гэтай фамiлii нарабiлi розных афэраў i скандалаў — у цьвярозым i нецьвярозым стане... — ў Лёндане абвешчаны банкротам родны брат „цара“ — Андрэй, быўшы ўласьнiкам вялiкай шулернi, а ў Парыжу толькi што спiсаны пратакол на стрэчнага брата „цара“, Зьмiтра Паўлавiча, за рад п‘яных скандалаў...

### Новая праваслаўная царква ў Парыжу.

У Парыжу будуецца новая царква i закладаецца Праваслаўная Акадэмiя.

### Прычына ўрадавага крызiсу ў Швэцыi.

Прэм‘ер падаўшагася ў адстаўку ўраду заявiў, што крызiс габiнэту ўзьняўся на грунце розьнiцы паглядаў ураду i большасьцi ў парляманце на справу абароны краю.

Аб тым-жа кажуць i выпушчаныя адозвы лiбэралаў i сац.-дэмакратаў, з якiх апошняя проста трэбавала адстаўкi габiнэту.

### Брантiнг прэм‘ерам.

Урадавы крызiс у Швэцыi закончыўся тым, што кароль даручыў стварыць урад вядомаму сацыялiсту Брантiнгу.

### Трывога ў Тыбэце.

Вялiкую трывогу выклiкала ў Тыбэце вестка аб тым, што Кiтай мае аружнай сiлай вярнуць пад сваю ўладу Тыбэт з его сьвятарным местам Лхасай, дзе жыве Далай Лама (iхнi папа).

Далай Лама, быццам, манiцца ўцякаць i ў садох яго палацу гатовы ўжо 200 каней, каб у кожны мамэнт пусьцiцца ў дарогу.

### Хатняя вайна ў Кiтаi.

У Кантоне памiж работнiкамi i вайсковымi ахвотнiкамi, утрымлiванымi багатырамi-прамыслоўцамi, узьнялiся стычкi, у часе якiх забiты 15 работнiкаў i шмат ранена. Места пакрылася барыкадамi.

### Нэйтралiтэт Японii.

Японскi пасол у Пэкiне падцьвярдзiў нэйтралiтэт Японii ў кiтайскай хатняй вайне, — просячы толькi гарантаваць жыцьцё i маемасьць японцаў — жыхароў Кiтаю.

### Вайна ў Марокко.

Паводле вестак з Шанжэру, кабiны ўзялi ў палон гiшпанскi атрад з 400 чалавек.

Галоўную каманду ўсiмi сiламi ў Марроко ўзяў на сябе дыктатар Гiшпанii, генарал Прымо-дэ-Рывэра.

## ХРОНIКА.

**Юрыдычныя парады.** Гэтым даводзiм да ведама нашых чытачоў, што ў газ. „Сялянская Праўда“ адчынiўся аддзел „Юрыдычных парад“.

Усiм нашым падпiшчыкам, каторыя рэгулярна ўносяць падпiсную плату, адказы i парады будуць друкавацца ў газэце дарма.

Запытаньнi з апiсаньнем справы просiм прысылаць па адрасу рэдакцыi (Wilno, Wileńska 12—6.

**Адна з многiх падзякаў.** Гаўрыла Касьцевiч, якому доўгi час польскi консул у Югаславii не даваў вiзы на праезд ў Гродзеншчыну, урэшцi дабраўся ў сваю вёску Баброўня, Скiдэльскай воласьцi, Горадзенскага павету. Прыезд яго стаўся магчымым, дзякуючы стараньням дэпутатаў Беларускага Пасольскага Клюбу, якiя складалi аб гэтым у свой час i iнтэрпэляцыю ў Сойме.

Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, Гаўрыла Касьцевiч прыслаў Бел. Пас. Клюбу гарачую падзяку за дапамогу i за падтрыманьне ў бядзе.

Калi не памыляемся, дык, здаецца, Гаўрыла Касьцевiч ёсьць родным братам Касьцевiча Макара, якi працуе ў Валэйшаўскай газэце „Грамадзкi Голас“ i выступае процi Беларускага Соймавага Клюбу.

**Да ўвядзеньня польскай мовы ў Вiленскай правас. Дух. Сэмiнарыi.** У сувязi з тым, што мы падавалi ў справе пераходу Вiленск. правасл. Духоўн. Сэмiнарыi на польскую мову, нас паведамляюць аб вельмi цiкаўных дэталях таго паседжаньня, на якiм новы рэктар, яп. Антонiй, высьнiў, што iнiцыятарам спольшчаньня сэмiнарыi зьяўляецца былы рэктар яе, архiм. Пiлiп.

Калi Старшыня пэдагагiчнай рады, рэктар яп. Антонiй, зьвярнуўся з запытаньнем да archim. Filipa, цi праўда, што ён, як гэта паказуюць дакумэнты, быў iнiцыятарам усей гэтай справы, падаўшы аб гэтым заяву п. куратару Гонсёровскаму, archim. Filip пачырванеў, закруцiўся на крэсьле i ўрэшце заявiў, што ён хадзiў да п. Гонсёровскага, „як прыватная асоба“, i запрапанаваў спольшчыць сэмiнарыю таксама, як прыватная асоба...

Але-ж яп. Антонiй паўторнымi пытаньнямi змусiў archim. Filipa ўрэшце прызнацца, што **заява аб гатоўнасьцi яго, archim. Filipa, перавесьцi сэмiнарыю на польскую мову была пададзена п. куратару зусiм афiцыяльна iм, як рэктарам Сэмiнарыi.**

Паны польскае начальства ведаюць, як трэба рабiць гэткiя далiкатныя рэчы. — Калi сам п. рэктар просiць, дык цi-ж ахвярная польская ўлада можа адмовiць?!

Характарна нават ў фальшывым адказе ojca Filipa яго заява аб яго „прыватных“ зносiнах з п. куратарам Гонсёровскiм. Дык было такое палажэньне ў Сэмiнарыi, калi ў ёй быў рэктарам archim. Filip, што рэктар Сэмiнарыi часамi быў сабе адносна да даверанай яму школы „прыватнай асобай“,—асаблiва тады, калi хадзiў да п. куратара...

Дзiва, што такой „прыватнай асобе“ п. куратар прыгатаваў добрае месца — вучыцеля Закону Божага ў-ва ўсiх казённых школах Вiльнi, нацiскаючы на дырэктароў, каб яны плацiлi archim. Filipowi, паводле этату нават за тыя лекцыi, якiх той не дае, бо ня мае вучняў!.. Ну, — цi-ж ня бацька родны?!

**Адсрочка пасылкi войска на гранiцу.** Назначаная на 20/X замена палiцыi на радавай гранiцы корпусам пагранiчнай старожы адложана на нейкi час, бо яшчэ ня ўсё для гэтага гатова.

Звольненая палiцыя будзе часткамi прыяжджаць у Вiльню, а ўжо адсюль, яе разашлюць на лiтоўскую i iншыя гранiцы.

---

**ГУЗЬНЕЯ ЯКАВА** шукае брат яго, Iсiдар Гузьней, якi знаходзiцца ў Амэрыцы.

Просьба, хто ведае пра Якава Гузьнея, паслаць адрас цi вестку аб iм па адрасу:

**M-r Guzney. Russian Sos. Nauka 315 E. 10-ch St. New-York, N. Y. U. S. A.**

---

## Карэспандэнцыi.

### Пажар у Радашковiчах.

(*Вiленшчына*).

У ноч на 13/X ў Радашковiчах пачаўся пажар, якi зрабiў вялiкiя шкоды. Згарэла насамперш... памешканьне пажарнай каманды з усiм абозам (вось дык пажарная каманда!); пасьля гмiнная ўправа... згарэла i шмат прыватных дамоў.

### Падзяка за працу.

(*з Кобрынскага пав.*).

Да абшарнiка пана Банкоўскага ў в. Андронаве, Стрыганоўскае гм., жанкi i дзяўчаты ходзяць на работу. За марную плату, 1 злоты ў дзень, яны мусяць ад ранку да позняга вечара капаць бульбу на панскiх гонях у мокрай i сырой зямлi.

Побач з вызыскам, пан Банкоўскi любiць часамi i пазьдзекавацца над сваiмi работнiцамi.

8/X с. г. Банкоўскi зьявiўся на поле асабiста i, замецiўшы, што некаторыя з дзяўчат прызасталiся на сваiх барознах, не пасьпяваючы за рэштай, ён накiнуўся на iх з грубымi цынiчнымi лаянкамi.

Калi адна з дзяўчат пачала апраўдацца, паясьняючы, з якой прычыны яны адсталi, абшарнiк страшэнна ўзлаваўся, з таўстой палкай, каторую ён у той час трымаў у руках, як дзiкi зьвер, ён кiнуўся на дзьвюх дзяўчат з в. Палятыны, Аўгеньню Кастылюк i Ульляну Казак i што сiлы ўдарыў адну з iх па сьпiне.

„Вон з майго поля!“ — роў пан, гонячыся за дзяўчатамi, каторыя, перапалохаўшыся, сунулi на ўцекачы. Рэшта жанок i дзяўчат з жахам узiралiся на тое, як таўсты абшарнiк, з выпертымi ад злосьцi бельмамi, ганяў бедных дзяўчат па полi.

Вось, якую падзяку маюць працаўнiкi ад абшарнiкаў за тое, што потам i крывёю палiваюць iх гонi. Абшарнiк Банкоўскi выдзяляецца спасярод iншых i стаiць на чале тутэйшых абшарнiкаў. Пры выбарах у Сойм i Сэнат, ён быў кандыдатам у паслы па сьпiску № 22 (Zjednoczenie państwowe na kresach), численная выбарная лiтэратура ад гэнай партыi радзiла сялянам галасаваць за яго. Крычалi, што ён так-жа „рольнiк“, добра знае сялянскую бяду, чалавек добры, разумны, дабрадзейны, што нат‘ як сьпiць, i то думае, як-бы зрабiць якое-небудзь дабро сялянам, i што толькi дзеля таго iдзе да Сойму, каб баранiць там сялянскiя iнтарэсы!

Шкада, што не прайшоў?? **Тутэйшы.**

### Начлежнiк.

(*з Горадзенскага пав.*).

Вярнуўшыся позна з сенакосу, я застаў у сваей хаце солтыса i нейкага паручнiка, як пасьля даведаўся: Стэлера Паўлу, з 15 палку пяхоты з Варшавы.

Пан паручнiк паказаў солтысу паперы, у якiх значылася, што мяйсцовыя i ўсялякiя iншыя ўлады павiнны яму памагаць у дарозе. Забясьпечыўшыся падводай на заўтра, пан паручнiк вельмi часта патрабаваў дапамогi солтыса.

Перш на перш загадаў солтысу сабраць сьвежага масла, а пасьля пасьцель: падушкi i „czyste prześcieradło“. Масла крыху дастаў, але з „prześcieradłem“ дык была чыстая бяда, бо сяляне, напрацаваўшыся на полi, крэпка спалi, i солтысу прышлося падняць такую трывогу, якой ня было i ў часы вайны, але-ткi вярнуўся без „prześcieradła“. Стаўшы „do raportu“, солтыс тлумачыў пану паручнiку i сяк i так, бо дзе-ж тое ў селянiна „prześcieradło“? На што пан паручнiк адказаў: „w kufrach są świąteczne prześcieradła“, (як вiдаць знаёмы яму куфры з часоў вайны).

Пан паручнiк прыехаў позна i мусi ня бачыў, што некаторыя сяляне жывуць у могiлках—зямлянках i ледзь, ледзь зьбiваюцца ну кусок чорнага хлеба — палоўкi, а напрацаваўшы ад зары, да зары, не да „prześcieradła“: хутчэй звалiсься, дзе папала, толькi-б аддыхнуць. Аддалi пан паручнiк не адчуў сялянскае бяды i змусiў бедную гаспадыню перавярнуць усю адзежу дагары нагамi; незнайшоўшы „prześcieradła“, здаволiўся звычайнай сялянскай посьцiлкай.

Прыказаўшы берагчы цiшыню i супакой i бачучы, што час за поўнач, прымiрыўся з тым, што дастаў, i заснуў. Калi ранiцай, выходзячы на сенакос, я асьцярожненька на цыпачках пайшоў у той пакой, дзе спаў „наш пан“ па хлеб, дык ён усхапiўся i крыкнуў: „co, do djabła, spokoju nie dajecie, przecież, mówiłem wczoraj: wszystko wynieść z tego pokoju!“.

Такую я меў падзяку за начлег. Парадзьце, людзi добрыя, цi мы павiнны гэтак гадзiць прыяжджаючым панам, цi не? **Жыхар.**

**Ад Рэдакцыi:** Начаваць пусьцiць трэба, але калi ён вялiкi пан, i хоча мягка спаць i есьцi сьвежае масла, дык мусiць купiць, або вазiць з сабой.

## Культурнае жыцьцё у Радавай Беларусi.

### Геалягiчныя досьледы Беларусi.

У Менск вярнулiся, пасьля месячнай дасьледчай працы, дзьве геалягiчныя групы — праф. М. Бюдухi i асыстэнта М. Грамыкi.

Першая група прайшла маршрутам ад Оршы на Копысь, па Дняпру; затым дасьледавала берагi р. Сожа ад верхавiн яго да м. Кармы; перабралася з Сожа iзноў на Дняпро ў Рагачова i паднялася па плынi на Быхаў i Магiлёў.

Другая група пайшла па Дняпру ад Оршы да гранiцы з ССРР; затым зьвярнула на м. Ляды—Ленiна i Горкi, ад Горак на Мсьцiслаў; i затым па р. Пронi да Прапойску, адкуль па шляху на Магiлёў.

Гэткiм чынам, абедзьвюма групамi былi пройдзены шэсьць кiрункаў—тры мэрыдыанальныя (палудзёньнiкавыя) i тры шыротныя.

Сабраны досыць багаты геалягiчны i мiнэралягiчны матар‘ял: больш 15-цёх скрынак, вагаю да 60 пудоў.

Апрача навуковага значэньня дасьледаваньня будовы зямных пластоў i iх характару, — экспэдыцыя праверыла лiтаратурныя данныя аб карысных выкапнях у гэтых мясцох Беларусi, а таксама знайшла некаторыя новыя выхады карысных практычна парод, як плястычныя глiны, гутавыя пяскi, вапнякi, крэйда, буры жалязьняк, глаўканiтавыя пяскi i глiны, як цiкавыя матар‘ялы для штучнага ґнаеньня поля i iнш.

У працы груп самы дзейны ўдзел прымалi студэнты беларускага ўнiвэрсытэту, як практыканты i як звычайныя рабочыя. Матар‘ял экспэдыцый пойдзе ў Iнстытут Беларускае Культуры i ў Дзяржаўную Плянавую Камiсiю для далейшай дэтальнай апрацоўкi.

## Паштовая скрынка.

**Кс. А. Роўту, Сэрафiму Буйнiцкаму, Уладзiмеру Курьянко, Язэпу Скакоўскаму, Язэпу Шышко, Пятру Букато, Яну Курыло, Аляксандры Грынь, Пятру Яноўскаму.**—Ад усiх па 2 зл. атрымалi — газэту высылаем. **Т. Раманцэву, Саюзу Дворнiкаў, А. Трэпко, Антону Парафяновiчу** — па 4 зл атрымалi. **Сiнкевiчу** — 5 зл. атрымалi. **Васiлю Навiцкаму** — 1 зл. атрымалi, газэту высылаем. **Антону Кандратовiчу** — 5 зл. атрымалi. Апрач „Сялянскай Праўды“ выходзiць яшчэ „Крынiца“ (лацiнвiкай). Напiшыце, як маем рабiць: цi часьць грошаў перадаць у „Крынiцу“ цi высылаць Вам 2 экз. „Сялянскай Праўды“? **Мiхалу Скоку** — 3 зл. атрымалi.


## У садаводзтве Мазалёво

(*Вiленская калёнiя*).

за м. Вiльней блiзка ад 1-га паўстанку мiж Вiльняй i Нова-Вялейкай, **прадаюцца ў вялiкiм выбары розныя фруктовыя дрэвы**, уноў зашчэпленыя i старэйшага ўзросту, а так-жа **розныя дэкаратыўныя кусты i дрэвы, i флянцы трускавак.**

Цэны па цяперашняму труднаму часу вельмi даступныя для ўсiх. За больш дэтальнымi сьведзеньнямi просiм зьвяртацца проста ў садаводзтва, або ў м. Вiльню, Завальная вул. 6. пам. 2, ад 4 да 6 гадз. па палуднi. 6—5



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцiк.**

Друкарня **Н. Левiн i Сын**, Вiльня, Нямецкая 22.


BIBLJOTE...